# Беларускі працэс у Латвіі.

*(Ад нашага карэспандэнта).*

У працягу працэсу даходзіўшая да нас расейская прэса ў Латвіі так ілжыва рысавала ход працэсу, што мы не маглі карыстацца яе весткамі і чакалі інфармацыяў ад нашага карэспандэнта, правёўшага ўсе тры дні ў салі суда. Як на прыклад ілжывасьці газэты „Сегодня“, можам паказаць на заяву апошняе, быццам прадстаўнік міністэрства загран. спраў Олінш „пацьвярдзіў усе даныя абвініцельнага акту“. З прыведзенага нашым карэспандэнтам зьместу паказаньняў грам. Олінша зусім ясна, як расейская газэта старалася абалгаць грамадзянства, — што найлепш пацьвярджае нашыя інфармацыі, што ўвесь працэс быў абаперты на палітычнай інтрызе латвійскіх палякоў і маскалёў проці ненавісных для іх беларусаў.

* * *

2, 3 і 4 красавіка ў Дзьвінску судзілі вядомых беларускіх грамадзкіх дзеячоў і іншых асоб, зьвязаных з беларускай культурнай працай у Латвіі. На лаве падсудных заселі: б. дырэктар Люцынскай гімназіі К. Езавітаў, б. дырэктар Дзьвінскай гімназіі I. Краскоўскі, вучыцялі Ул. Пігулеўскі, Паўліна Мядзёлка-Грыб, А. Якубецкі, М. Іванов, Корті і „называючы сябе ўкраінскім пэдагогам“ нейкі Жэрдій. Спаміж іх Езавітаў прасядзеў у вастрозе каля 11 месяцаў, а Краскоўскі і Мядзёлка-Грыб былі выдалены са службы і даслоўна выкінуты на брук.

Справа цягнулася цэлы год, зрабіла ўжо непапраўныя шкоды беларускаму руху ў Латвіі, давяла да ўпадку Дзьвінскую беларускую гімназію, лічыўшуюся датуль аднэй з найлепшых у Латвіі наагул,—стэрарызавала ўсё беларускае насяленьне ў Латвіі, „что и требовалось доказать“.

На працэс было выклікана больш за 100 сьведкаў,—пераважна вучыцялёў беларускіх школ і вучняў апошніх, да 11-летніх дзяцей уключна.

Суд адбываўся пад старшынствам прадсядацеля Латгальскага акружнога суда.

Для ўсіх было ясна, што гэта судзяць не паасобных абвінавачаных беларускіх дзеячоў, а што пастаўлена пад падазрэньне самая беларуская ідэя, што суд адбываецца над усім беларускім нацыянальным рухам наагул. Дык ня дзіва, што зацікаўленьне працэсам было сярод беларусаў надзвычайнае. Асабліва цікавілася беларуская моладзь, бо-ж аб яе інтарэсы перад усім ішла справа. Але іменна ей быў зачынены доступ у суд, і толькі адзінкі спасярод вучаш ыхся здалелі „кантрабандай“ праскачыць у салю суда.

### Першы дзень.

Пасьля прачытаньня акту абвінавачаньня і заявы ўсіх падсудных, што вінаватымі сябе не прызнаюць,—распачаўся дапрос сьведкаў.

Першы даваў свае паказаньні кіраўнік заходняга аддзелу міністэрства загранічных спраў П. Олінш. Добра знаёмы з беларускім рухам з часоў бытнасьці яго латвійскім паслом у Варшаве, а так-жа і з правадырамі гэтага руху, ён у гарачай прамове дае абраз руху, ідэі якога ў сваім часе знайшлі выражэньне ў варшаўскай часопісі „Przymierze“. Паводле яго перакананьня, беларускі рух ня толькі ня мае ў сабе нічога варожага да Латвіі, а, наадварот, зусім зыходзіцца з інтарэсамі латвійскае дзяржаўнае палітыкі. Далей сьведка даў дужа добрую харктэрыстыку падсуднага Краскоўскага, якога абрысаваў з найлепшага боку.— Важкая, поўная дзяржаўнага розуму паважнага прадстаўніка латвійскае грамадзкасьці мова зрабіла вялікае ўражаньне і паважна трактавалася пасьля і пракурорам і абаронай.

Далей ідзе рад сьведкаў абвіненьня — расейцаў, якія гавораць аб дзеяльнасьці Езавітава і Т-ва „Бацькаўшчына“, — дзеяльнасьці, як высьняецца, чыста культурнай, далёкай ад якое-колечы палітыкі. Увесь час выяўляецца рэзкая нязгоднасьць цяперашніх паказаньняў сьведкаў з запісанымі сьледчым Саўкумсам. Адзін з галоўных сьведкаў абвіненьня, вучыцель Люцынскае беларускае гімназіі Орлов, калі яму прачыталі пратакол дапросу яго ў сьледчага, заявіў суду: „Паказаньні ў сьледчага я даваў не ў такой форме. Я паказваў парасейску, а сьледчы пісаў палатышску і вельмі сьпяшаўся“. З далейшага высьнілася, што некаторым сьведкам сьледчы ня чытаў пратаколу, заяўляючы: „вы-ж ведаеце, што тамака напісана!“ Дзесяткі разоў пракурор трэбуе прачытываць пратаколы дапросаў, і сьведкі заяўляюць, што іх тады сьледчы не зразумеў, і яны ня гэтак паказвалі.

Галоўным сьведкай абвіненьня зьяўлялася палітычная ахрана ў Дзьвінску на чале з начальнікам яе Эмбэргам і зволененая ў свой час ад службы, як нягодная вучыцелька, Полоневіч, якая старалася спольшчыць беларускую школу, куды папала.

Начальнік палітычнае ахраны Эмбэрг пачаў з вялікай пэўнасьцяй гаварыць аб беларускім нацыянальным руху, беларускіх палітычных партыях і ролі падсудных. Сьпярша ён абмяжоўваўся толькі агульнымі фразамі і не прадстаўляў фактычных данных, бо Корті на судзе не пацьвярдзіў сваіх паказаньняў у ахране. Адзінымі сьведкамі, на якіх Эмбэрг пазываўся, былі нейкія Осанов і Васільев, на суд не зьявіўшыяся. Які-ж быў канфуз для ахраны, калі на судзе былі прадстаўлены абаронцамі нумары газэты „Сегодня“, дзе напісана, што Осанов і Васільев, як афэрысты і манархісты — правакатары, ужо сядзяць у вастрозе! Калі адвакаты пачалі дапытывацца ў паліт. ахраны якіх-колечы дакумэнтальных даных аб праступнай дзеяльнасьці падсудных, дык ніякіх даных не аказалася. А на пытаньне абаронцаў, якія-ж праграмы ў гэтых беларускіх партыяў, якая іх арганізацыя і дзеяльнасьць, ды інш.,—дык ахрана пачала ўсё цішэй і цішэй адказваць „ня ведаю, ня ведаю, ня ведаю“... Уражаньне — нейкае дурноты і ганьбы!..

Полоневіч ніякіх даных аб праступнай дзеяльнасьці падсудных не дала; наадварот, з паказаньняў латышскага школьнага інспэктара было ўстаноўлена, што яе зволнілі пасьля рэвізіі, як нягодную вучыцельку, і тады яна пагражала, што памсьціцца за гэта на Пігулеўскім і Краскоўскім.

Гэтак закончыўся першы дзень працэсу — дзень галоўных сьведкаў абвіненьня.

Трэба адзначыць, што ўсе тры дні суд трываў ад 9 гадз раніцы да ночы з невялікім перарывам на паўгадзіны на абед.

(Далей будзе).

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Абмен нотамі.

„Сегодня“ паведамляе, што ў адказ на рэзкі пратэст Чычэрына проці забойства Вечаркевіча і Багіньскага польскі ўрад паслаў ноту, у якой, выражаючы жаль з прычыны забойства, з свайго боку пратэстуе проці неаб'ектыўных абвінавачаньняў з боку радавага ўраду ў сувязі з забойствам. Нота падчырківае, што разьмер кары для забойцы — гэта ўнутраная справа Польшчы.

11-га крас. Чычэрын выслаў новую ноту ў гэтай-жа справе, зварачаючы ўвагу польскага ўраду на тое, што самым фактам абмену Вечаркевіча і Багіньскага польскі ўрад прызнаў усю справу іх — няўнутранай справай Польшчы, — дык зусім зразумела зацікаўленасьць у ёй радавага ўраду.

### Хто такі Мурашка?

Навакол новаго „narodowego bogatera“ (героя) забойцы безбаронных палітычных вязьняў, ужо выданых польскім урадам, ураду СССР, творацца цэлыя легенды.

Дык вельмі начасе зьмешчаны ў „Robotniku“ ліст жыхара роднай Мурашцы в. Сопоцкіняў, Сувальскай зямлі, Гедройцы, які разьвівае ўвесь той туман, што напусьцілі, як „дымавую заслону“, на забойцу, каб даць яму магчымасьць лягчэй уцячы ад законнай кары.

Аказываецца, што Мурашка быў здаўна патрыётам,—нават шавіністам, але толькі... літоўскім, а ня польскім!.. Уся яго сям'я—ворагі Польшчы.

Дык словы Мурашкі: „споўніў я абавязак патрыёта“ — папросту фраза кондотьера. Бацька Мурашкі быў бедны арганіст у Сопоцькінях, а зусім не памешчык, у якога забралі і зруйнавалі маёнтак бальшавікі, дык і гэтыя словы Мурашкі—брахня.

Але з корпусу Довбора-Мусьніцкага Мурашка вярнуўся дамоў у Сапоцкіні, ужо зусім іншым: „тады ён сваім паступаньнем з родным насяленьнем выклікаў да сябе ненавісьць і пагарду“. „Гэта чалавек без найменшых падставаў маральных, умыслова абмежаваны, з характарам гвалтоўніка, не разьбіраючы ў срэдзтвах, гатовы на ўсялякую найгоршую рэч“.

„Мурашка быў ведамы, як блягер (хвастун—брахун), скандаліст (warchoł), з зьверскімі інстынктамі і быў здаўна ў супярэчнасьці з угалоўнымі законамі“.

Другія газэты падалі, што Мурашка, калі быў жандармам (Пілсудскага...), забіў польскага ахфіцэра... Але тады справу гэтую начальства затушавала. Мурашка быў толькі выкінуты з жандармэрыі і... назначаны ў паліцыю,—зразумела-ж, на „Крэсы“...

На „Крэсах“ ён папросту „знайшоў сваё прызваньне“. Жыхары м. Стоўпцаў пішуць нам, што Мурашка выдзяляўся нават на „Крэсах“ сваім бяспрыкладным зьверствам. Адзін з мясцовых інтэлігентаў піша, што Мурашка—выразны тып садыст, бо нават катаваў сваю жонку, тушачы аб яе цела дапаленыя папіросы. Можна сабе прадставіць, што такі шалёны зьвер рабіў з папаўшымі ў яго рукі беларусамі сялянамі...

### Адзінаццаты дзень забастоўкі батракоў.

„Robotnik“ сцьвярджае, што 11-ты дзень забастоўка сельска-гасп. работнікаў ня толькі трымаецца моцна, але яшчэ і пашыраецца.

Ня гледзячы на адозвы і інструкцыі ўраду аб'яднаных абшарнікаў, у шмат якіх мясцох робяцца ўмовы на варунках, апрацованых цэнтральным урадам саюзу работнікаў.

„Robotnik“ сцьвярджае, што суды ў Польшчы стаяць на вышыні... дамаганьняў абшарнікаў,—з „маланкавай шпаркасьцю“ выконываючы рэпрэсіі проці забастоўшчыкаў—па скаргам абшарнікаў.

„Дзе міністар справядлівасьці?“,—патэтычна выклікае газэта.

„На сваім мейсцы, у ўрадзе братоў Грабскіх, які падтрымлівае Партыя Польскіх Сацыялістаў, што выдае... газэту „Robotnik“,—можна адказаць газэце.

### „Хатняя вайна“ ў „Крэсавай сэкцыі“.

У „крэсавай“ сэкцыі палітычнага камітэту Рады Міністраў (Тугуттаўскай) пачалася з уваходам у склад яе п. Ст. Грабскага запраўдная „хатняя вайна“. — „Robotnik“ піша, што „п. Тугутт спатыкаецца ў крэсавым камітэце з сільным праціўленьнем рэакцыі, якая праціўіцца ўсялякім яго рэформам“. А „Rzeczpospolita“ паведамляе нават, што п. Тугутт ужо падаўся ў адстаўку.

Пакуль што, здаецца, яшчэ ня так страшна...

## Заграніцай.

### Адстаўка ўраду Эрыо.

10-га красавіка францускі сэнат 156 галасамі проці 132 адкінуў прапазіцыю, выражаючую даверые ўраду Эрыо. А пасьля гэтага 163 галасамі выразіў габінэту фармальнае недаверые.

Зараз-жа пасьля гэтага галасаваньня сябры габінэту сабраліся на паседжаньне, каб напісаць заяву аб адстаўцы — дзеля падачы ў той-жа дзень прэзыдэнту рэспублікі.

Позна ўвечары прашэньне аб адстаўцы было ўжо пададзена прэзыдэнту Думэргу.

### Апошняя прамова Эрыо.

Рашучы ўдар Эрыо зрабіў былы міністар фінансаў габінэту Пуанкарэ, сэнатар Марсаль. Ён закідаў Эрыо, што толькі ён адзіны з усіх шэфаў ураду пасьля вайны пераступіў законную граніцу эмісіі папяровых франкаў, амаль ня выклікаўшы краху франка. Марсаль заявіў, што ані даніна, ані пазыка ня верне ўраду даверыя краю.

Сэнатару Марсалю адказываў Эрыо — у Сайме, даводзячы, што кіраваўся толькі карысьцяй Францыі.

### Француская прэса аб адстаўцы ўраду.

Орган урадовага „левага блёку“ „Новая Эра“ піша, што габінэт быў ужо раней ранены на сьмерць і чакаў сваей пагібелі. Яго фальшывыя абаронцы зрабілі яму апошні ўдар.

Блізкая да Эрыо радыкальная прэса піша, што ўрад праваліўся дзеля таго, што пайшоў на лішне вялікія ўступкі сацыялістам — у справе даніны (падатку ад капіталаў). Трэба адзначыць, што сацыялісты францускія дамагаліся толькі 2% даніны.

„Фігаро“, хвалючы Эрыо, піша, што цяпер трэба стварыць „габінэт нацыянальнага адзінства“ (?).

### Выбарныя правы кабет у Францыі.

Парлямант прызнаў за кабетамі выбарныя правы—на выбарах у гмінныя і акружныя самаўрады.

### Апраўданьне Садуля.

Францускі камуніст капітан Садуль, які ўцёк з Францыі—у чырвоную армію, а пасьля, вярнуўшыся ў Парыж, як сябра радавага пасольства, быў арыштаваны і аддадзены пад суд за здраду,—судом апраўданы.

### Сьмерць патрыярха Ціхана.

Уноч на 9 красавіка памёр у Маскве патрыарх Ціхан, маючы 60 гадоў.

### Пятлюра, як Савінкаў.

Газэты пішуць, быццам Пятлюра вядзе перагаворы аб павароце ў СССР і паразуменьні з радавым урадам. У апошнім-жа нумары „Сегодня“ паведамляюць з Масквы, што тры відныя сябры пятлюраўскага ўраду—Коліух, Хрыстюк і Степаненко падалі ў украінскі ЦИК прашэньне аб „наданьні обывательства“.

### Выбары ў Бэльгіі.

Выбары ў бэльгійскі парлямянт далі гэткія лічбы: 81 каталікоў, 76 сацыялістаў і 25 лібэралаў, 5 фламандзкіх незалежнікаў і 1 камуніст. Папярэдні сойм меў 80 каталікоў (консэрватараў), 68 сацыялістаў, 36 лібэралаў і 6 фламандцаў. Дык сацыялісты здабылі 8 мандатаў—коштам лібэралаў. Як у Англіі, лібэральная партыя Бэльгіі зыходзіць з палітычнай сцэны, але пакуль-што якраз яна будзе вырашаць склад ураду і яго напрамак.

# Хроніка.

**З прычыны каталіцкіх, праваслаўных і жыдоўскіх сьвятаў у тым і гэтым тыдні друкарня, у якой друкуецца „Беларуская Доля“, працавала толькі па тры дні, дый у гэтыя дні не працавала частка работнікаў (перш каталікі, а пасьля праваслаўныя). З гэтай прычыны ў тым і гэтым тыдні мы мелі магчымасьць выпусьціць толькі па адным нумары.**

**Чародныя нумары выйдуць у наступным тыдні, як звычайна.**

**Выясьненьне ў справе адкладу сплаты грунтовага падатку.** Міністэрства Скарбу атрымлівае скаргі, што скарбовыя ўрады, ня гледзячы на належачае ім права, зьмешчанае ў § 9—18 распараджэньня Мін. Скарбу з 29. IX. 23 г. (Dz. U. R. P. № 101 poz. 797) а таксама ў цыркуляры Мін. Скарбу з 6. XI 24 г. № 1923/IV аб застасаваньні палёгкаў у форме адкладаньня тэрміну сплаты грунтовага падатку за 1924 год, абмяжоўвае гэтую сплату ў большасьці выпадкаў да 1. III. 25 г.

Адклад платы грунтовага падатку да 1. III. 25 г. для людзей, гаспадаркі якіх пастрадалі ад неураджаю, як і ў шмат якіх мяйсцовасьцях краю ў 1924 г. меў месца, ня можа лічыцца за здавальняючую палёгку, бо як фінансавая сітуацыя, так і агулам гаспадарчая тэй катэгорыі плацельнікаў ня толькі не паправілася, але, наадварот, яшчэ болей пагоршылася. З гэтых прычын зьяўляецца **неабходнасьць перанясеньня тэрміну платы падатку да часу рэалізацыі новага ўраджаю ў бягучым годзе.**

Дзеля гэтага Скарбовым Ізбам ува ўсіх выпадках, дзе з прычыны леташняга неураджаю сплата грунтовага падатку застала адкладзена на тэрмін бліжэйшы, як да канца верасьня гэтага году, г. зн. да моманту, у якім плацельнікі хоць часткова будуць магчы зрэалізаваць ураджай 1925 г., прапануецца перасунуць тэрміны сплаты падатку за 1924 год да 1. X. 25 г., не вымагаючы падаваньня аб гэтым просьбаў.

З вышэй пададзеных прычын плацельнікі гэтай катэгорыі ня будуць магчы ўнесьці ў тэрміне да 15. IV. 25 г. таксама **першай раты грунтовых падаткаў за бягучы год, дзеля гэтага і сплата гэтай раты павінна быць адкладзена.**

З прычыны таго, што са сплатаю грунтовага падатку зьвязана сплата падатку на карысьць самаўрадаў (гмінаў, магістратаў), бягучыя патрэбы якіх павінны быць здаволены, дык адклад сплаты грунтовага падатку да новага ўраджаю ня можа мець з сабой аўтаматычнага адкладу падатку на карысьць самаўрадаў.

Дзеля вышэй паданых матываў першая рата грунтовага падатку за бягучы год можа быць адкладзена да будучага ўраджаю плацельнікам, у якіх ад леташняга неўраджаю зьменшыўся нармальны сярэдні збор хлеба вышэй як на 40%. Палёгкі павінны давацца па прапазіцыі гмінных радаў, калі ідзець справа меншых за 43 гектары, а таксама на паасобныя просьбы, калі гэта тычыцца большай уласнасьці.

Адкладаньне панствовага падатку не павінна мець з сабой адкладаньня падаткаў самаўрадавых бяз згоды на гэта павятовых аддзелаў.

Пастанаўляць аб адкладаньні на час да 15. X. 1925 г. могуць Скарбовыя ўрады падаткаў і скарбовых аплатаў: гэта — згодна § 12 распараджэньня Мін. Скарбу ад 19. IX. 23 г.

Вышэй пададзенае афіцыяльнае выясьненьне, паходзячае з Міністэрства Скарбу, падаём да ведама сялянства, пастрадаўшага ад леташняга неўраджаю, градабіцьця і г. д., каб ведалі людзі на што апірацца і куды зьвяртацца ў выпадках сьцягаваньня з іх леташніх падаткаў, якіх шмат дзе людзі не заплацілі да гэтага часу.

**„Доктар“ не здаецца!** Сябры так-званай „Часовай Беларускай Рады“, ня гледзячы на разьвязаньне яе стварыўшым „Грам. Сабраньнем“, ня думаюць ліквідавацца: лішне ўжо смачна даставаць „пэнсіі“ з польскага дзяржаўнага скарбу за... „шчырую службу“ гаспадаром палажэньня!

Мала таго: „доктар“ Паўлюкевіч, як пісалі польскія газэты, ладзіць „беларуска ўкраінскі саюз“: і ўкраінцаў Бог надзяліў сваім Валэйшам, адступнікам ад народу Оскілкам, дык „доктар“, пасварыўшыся з беларускім Валэйшам, знайшоў сабе пару ў асобе гэнага Оскілка.

За апошнія часы „доктар“ аб'яжджаў Наваградчыну і рабіў „мітынгі дзеля барацьбы з бандытызмам“. Цікава, ці ня ёсьць гэтая „праца“ часткай агульнага пляну „санацыі Крэсаў“, што распачалася арыштам у тэй-жа Наваградчыне 1368 беларусаў, у тым ліку ўсіх беларускіх культурных працаўнікоў. „Уцалелі“ толькі „доктар“ і яго палітычныя прыяцелі, затое ўсе, што не пайшлі за „казённымі беларусамі“, сідзяць па вастрогах.

# Карэспандэнцыі.

## „Асьвета і культура“.

(З *Дзісеншчыны*).

Пра гэтыя дзьве рэчы, досыць вялікія ў сваім значэньні, шмат пішацца ў апошнія часы. Мо' ўжо троху і апрыкрыла. Але здараюцца такія выпадкі, што трэба, каб і людзі ведалі пра іх.

Часта чытаем пра школы, пра вучыцялёў,—нават і пра аднаго „пана куратара“. Ад усіх гэтых чытанак і дзьмецъ „асьветай і культурай“. У куратарыуме — крадуць, недзе ў гімназіі купляюць сьвіней і бавяцца ў палітычную паліцыю, па звычайных школах б'юць, крадуць, лаюць. Адным словам, — як належа быць у дзяржаве з „высокай культурай“.

Вось, апавядалі нам людзі аб „асьвеце і культуры“ ў малым мястэчку Празароках.

Ёсьць тутака школа „rządowa“. За апошнія чатыры гады зьмянілася ў ёй з дзесяць настаўнікаў. Цяперака ёсьць: вучыцель і вучыцелька, з пяць аддзелаў і ажно з... 40 дзяцей, калі даўней было 120. У прошлым годзе займаліся ў школе больш „спэктаклямі тэатру пана Гурнага“, на якіх дужа добра разьвівалася „культура“ буфэту гэнага пана, аб якой заўсёды сьведчылі груды бутэлек ад гарэлкі. Дык ад гэнае „культуры“ ўжо і вучні падросткі добра распазнаюць „пазнанку“ ад „парафіянаўкі“.

Але сёлета новы вучыцель выгнаў „тэатр“ са школы. Цяперака ў школе ўжо сьпяваюць: „skacze wróbel po ulicy“, „nie rzucim ziemi“ і г. д., а па за школай дзеці гуляюць у вельмі сэзонную гульню—г. ё. „biją w mordę“ адзін аднаго, без амылкі лаюцца на „дзяржаўнай мове“, кураць махорку, а часамі і „Radjo“, разганяюць сабачыя вясельлі, а ў сьвяткі „z oddziału III і IV“ складаюцца і на „0,5—45°“. Ад вучняў не адстаюць і вучаніцы. Гэтак нядаўна вуч. Ганна і Настася, ужо з „oddziału starszego“, нагаварыла вуч., каб яна, як багацейшая, (бо бацька гандлюе мясам), пачаставала іх у рэстарацыі „пана“ Гурнага“, Да гэтае кумпаніі далучлася „córeczka pana komendanta“ і „prim—артыстка“ „тэатру Гурнага“ Вера. Гэтай маладой кумпаніі вуч. З. нафундавала ў „пана Гурнага на 40 зл., у гуртоўні на 10 зл., і купіла на сукенку Н. Пан Гурны, як сябра „kółka oswiatowo-kulturalnego“, даваў цукеркі і чэкаляду вуч. З. ў крэдыт на рахунак бацькоў апошняй. Ведама-ж, кожны „сябра“ гэтага „kółka“ павінен дбаць аб „асьвету і культуру“ „нашае“ моладзі. Ну, а 40 зл., „культурных“ недзе ж валяюцца, а сыскаць іх „пану“ Гурнаму паможа ўлада ў усіх інстанцыях (цікава толькі, што гэтыя інстанцыі ніяк ня могуць спагнаць з Гурнага 700 зл. штрафу і, як кажуць людзі, зрабілі яго на'т „убогім“).

Ну, дык чым жа не „асьвета і культура“ сярод вучняў „нашых“ школаў? Нейкі ксёндз пісаў у „Gaz. Warsz.“, што вучань абакраў касьцёл. Ну, — у нас да гэтага яшчэ не дайшло,—бо „нашыя“ вучні толькі абкрадаюць бацькоў і нясуць да Гурнага (бо вуч. З. і Г. як прызналіся, укралі ў бацькоў па 10 зл.). Не адразу-ж „культура“ будуецца.

Пане Гонсёровскі,—неяк за шмат у пана гэтае „асьветы і культуры“ — ад канцэлярыі самога пана і ажно да нашых дзетак. Дзякуем за гэтакую „асьвету і культуру“,—сваімі сіламі збудуем сабе і нашым дзеткам культуру родную, мо' і ня гэтакую „высокую“, але сьвятлейшую.

**Зязюля.**

# Лісты з Амэрыкі.

I.

## Манархічны рух сярод эмігрантаў - украінцаў.

Уважаю сваім абавязкам паінфармаваць беларускае грамадзянства аб дужа дзіўным руху, які пачаўся сярод украінцаў у Амэрыцы і Канадзе.

Перадусім трэба ведаць, што ўкраінцаў у Амэрыцы будзе каля 1.000.000 душ, а ў Канадзе - блізка 500.000. Гэта фабрычны пралетарыят у Амэрыцы, ды сяляне-земляўласьнікі ў Канадзе. Першыя рассыпаны па вялікіх цэнтрах у самым толькі Нью-Іорку будзе іх, каля 40.000. Другія сканцэнтраваны на зямлі (фэрмах) і займаюць некаторыя мяйсцовасьці густой масай на прасторы геаграфічнай велічыні Усходняй Галічыны, як, напрыклад, каля м. Мондэр у Канадзе.

Памыліўся-бы той, хто думаў-бы, што манархічны рух распачаўся сярод сялянства. Ён распачаўся паміж фабрычнага пралетарыяту ў Чыкаго, Дэтрольт, Клівленд і іншых цэнтрах, а ў Канадзе таксама ў прамысловым цэнтры Торонто і зтуль перайшоў на сялянскія прасторы.

Якія-ж глыбейшыя асновы гэтага руху?

Памылкова было-бы думаць, што гэта ёсьць адбіцьцё расейскага манархізму, які выявіўся ў маніфэсьце „цара“ Кірыла. Адно з другім нічога супольнага ня мае. Гэта відаць з таго, што ўкраінскі рух быў раней ад паяўленьня на амэрыканскім грунце слабога расейскага руху.

Калі паявіўся маніфэст Кірыла,—украінцы ўжылі яго на тое, каб паказаць украінскаму народу, што царская Расея зноў хоча заўладаць Украінай. Фактычнай прычынай манархічнага руху сярод украінцаў ёсьць перад усім тое, што бальшавізм прадстаўляецца тутэйшым эмігрантам, як сацыяльная і нацыянальная няволя. Гэтак рысуюць палажэньне ў Радавай Украіне паўцякаўшыя зтуль дзеля тых ці іншых прычын асобы. Усім-жа дэмакратычным партыям работніцтва верыць яшчэ менш, чым верыла бальшавікам, — дык што-ж засталося? Астаўся толькі паварот да адзінаўладзтва. На гэтым грунце і вытварылася манархічная ідэалёгія сярод фабрычнага пралетарыяту ў найбагацейшай рэспубліцы сьвету, і ў чыста работніцкіх арганізацыях фабрычны пралетарыят пачаў прысягаць на вернасьць манарху Украіны — гэтману Скоропадскаму.

Інтэлігенцыя спачатку працівілася гэтаму руху,— за выняткам такіх адзінак, як др. С. Грыневецкій і былы міністар пры Кіеўскай Дырэкторыі др. О. Назарук: тыя адразу высказаліся за гэтманам.

Памалу за гэтым рухам пайшло і больш інтэлігенцыі — сьвецкай і духоўнай. Процім гэтага было йсьці дарэмна, бо гэта фактычна справа веры і традыцыі мас, а ня справа палітычная, хаця яна можа мець вельмі вялікія палітычныя насьледкі. Што гэта іменна вера мас, відно з таго, што рабочыя пішуць вершы, выхваляючы Гэтмана, і даюць такія абразы:

„То йде Гетьман—несе меч князівський
І бунчук свій давний, прадідівський,
То йдуть війска до князів Століці
Несуть волю всій нашій землиці“.

(Амэрыканскі орган „Січ“ з 27.XII. 24 г.).

А ў газэці „Канадийский Українець“ з 14. I. 25. Сялянства дамагаецца, каб яму пісаць пра Гэтмана,— і рэдакцыя абяцуе гэта, хаця яна каталіцкая, а гэтман праваслаўны.

Такім чынам рух гэты захоплівавае тут і праваслаўных і каталікоў.

Яшчэ 22 лістапада 1924 г. выдалі дзьве цэнтральныя арганізацыі Украінцаў—адна ў Амэрыцы, а другая ў Канадзе—выдала супольны маніфэст да ўсяго ўкраінскага народу, у каторым пішуць, што праўным прадстаўніком усей Украіны ёсьць наследны гэтман П. Скоропадскій. Маніфэст выклікаў вялікае ўражаньне. Адгукнулася на яго ўся прэса Амэрыкі і Канады.

Гэты рух падобны да манархічнага руху ў Нямеччыне і прыпамінае таксама італіянскі фашызм. Усьпех яго будзе залежаць ад вялікіх падзеяў у Эўропе, галоўным чынам ад таго, як доўга вытрымае бальшавізм у Расеі.

Да Беларусі гэты ўкраінскі рух, як мне ўдалося спраўдзіць у розных цэнтрах,—ставіцца, на дзіва, дужа прыхільна. Гэты рух уважае саюз Украіны з Беларусяй і з Балтыцкімі Дзяржавамі за першую мэту Гэтмана (—каб гэтак распачаць адбудову „единой, недѣлимой России!?).

Ідэалёгія руху спачывае на студыях вядомага гісторыка і агранома В. Ліпіньскага, радзіўшагася на Валыні, каторы цяпер жыве ў Аўстрыі і ад 4-х гадоў. друкуе свае стацьці ў органе „Хліборобска Украіна“.

Пра іншыя справы пастараюся напісаць у другім лісьце.

**Антон Змагар.**

Чыкаго.

**Ад Рэдакцыі.** Аўтар гэтага пісьма, відаць, мала знаёмы з дзейнасьцяй украінскага—з ласкі нямецкага кайзэра—гэтмана Паўлы Скарападзкага, які імкнуўся ад Украіны распачаць адбудову манархічнае Расеі. Відаць, што на гэты рух ідуць вялікія грошы з расейскіх манархічных крыніцаў. Пісьмо друкуем, каб зьвярнуць увагу на самы факт руху.

# Беларусы у Латвіі.

## Вынікі сьпісу насяленьня.

Апублікаваны ўжо вынікі сьпісу насяленьня Латвіі, які адбываўся 9—10 лютага с. г.

Нацыянальны склад насяленьня Латвіі прадстаўляецца гэтак:

палякоў — 2,8 проц.
немцаў —3,15 „
**беларусаў—4,19** „
жыдоў —4,22 „
расейцаў— 5,5 „
рэшта—латышы і інш.

Гэтак меншасьцяў у Латвіі налічваецца блізу роў 20% (19,86), або адна пятая частка. Сярод „меншасьцяй“ беларусы стаяць пасярэдзіне — за расейцамі і жыдамі, але перавышаюць лічбу немцаў і палякоў.

У сувязі з гэтым на беларускія школы выдзелена з латвійскага бюджэту 113,169 латаў (або 5,658,450 латвійскіх рублёў).

Цікава, што, ня гледзячы на сваю пачэсную лічбу, беларусы ня маюць у Латвійскім сойме ніводнага дэпутата. Што-ж датычыцца другіх меншасьцяў у сойме і іх адносінаў да беларусаў, дык соймавае „бюро нацыянальных меншасьцяў“, зложанае з расейцаў, палякоў, жыдоў і немцаў, **адмовілася ўзяць на сябе абарону культурных інтарэсаў беларускага насяленьня.**

Характэрна, што толькі адзін дэп. Калістратов, **старавер**, падтрымліваў прапазіцыю, каб бюро меншасьцяў бараніла ў сойме і не прадстаўленых тамака беларусаў. Уплывы палякоў і „настоящих русских“, зрабіўшых між сабой змову дзеля барацьбы з беларускім адраджэнскім рухам, аказаліся гэткімі сільнымі, што ім паддаліся і жыды і немцы.

# Паштовая скрынка.

**Падпішчыку № 994.** Карэспандэнцыя атрымана. У справе дазволу на ўезд у С.С.С.Р. зьвярнецеся ў пасольства С.С.С.Р. Варшава, Nowo-Senatorska Nr. 1.

**Грамадзяніну Бедняку.** Карэспандэнцыя атрымана, але ў газэці змешчана быць ня можа.



Рэдактар-Выдавец **Антон Пракапеня.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.